# Паэткі дваццатых

## Ганна Брэская

Дакладных звестак пра жыццёвы і творчы шлях Ганны Брэскай не захавалася. Можна толькі дапусціць, што нарадзілася паэтка недзе паміж 1907—1910 г. у сялянскай сям'і на Полаччыне. Пісаць пачала яшчэ ў сямігодцы. Першыя творы з'явіліся ў друку ў студзені 1925 г., калі «Беларуская работніца і сялянка» надрукавала яе вершаваны прызыў:

*Дзед! Ямчэй нам грай на дудцы!*
*Сабірайцеся сябры,*
*Заспявайце песню дружна,*
*Бо ўвесь край наш у агні!*

*Нашы нівы чырванеюць,*
*Вёскі полымем гараць,*
*Іх агнём рэвалюцыйным*
*Агарнула наша раць...*

Далейшы жыццёвы шлях паэткі паспрабуем убачыць праз яе творы, якія ўдалося адшукаць у перыядычным друку і папулярных у той час сумесных зборніках.

У 1926 г. выданне Полацкай філіі «Маладняка» часопіс «Наддзвінне» друкуе два вершы Г.Брэскай: «З каўказскіх напеваў» і «Францыск Скарына», навеяны старажытным Полацкам і прысвечаны першаму славянскаму кнігадрукару:

*Запаліў ты праменнем іскрыстым*
*Крыўдай вечнай засмучаны край.*
*Па грунтовай зямлі камяністай*
*Свежай ранай прайшла баразна...*

У красавіку 1927 г. «Чырвоная Полаччына» на «Літаратурнай старонцы», якую пачаў рэдагаваць, замяніўшы Алеся Звонака, Пятрусь Броўка і дзе друкаваліся мясцовыя паэты — Тарас Хадкевіч, Сымон Хурсік, Янка Відук (Ян Скрыган), сам П.Броўка і іншыя, змяшчае верш Г.Брэскай «Зялёны свет».

Праз год пра «паэтаў пяшчотных струн, ледзяных гітар,

пярыннага блажэнства і літаратурнай пустазвоніцы…» ўспомніць лідэр літаратурна-мастацкай камуны Паўлюк Шукайла. «Гэта людзі, якія не разумеюць, што літаратура толькі тады прымае ўдзел у прагрэсе жыцця і культуры, служыць зброяю сілы, якая рухае гэтыя працэсы наперад, калі бярэцца за форму акаляючая дынаміка, голас жыцця і змест, які адпавядае мэце…», — пісаў «камунар» у пачатку 1928 г. Яго думку заставалася толькі прадоўжыць: і мэта, якая апраўдвае сродкі… Праз дзесяцігоддзе, у юбілейным для бальшавікоў і крывавым для народа 1937-м, «гульні ў камуну» П.Шукайлу не выратавалі. «Калегі-камунары» арыштавалі свайго «ідэалагічнага канкурэнта», але, як потым атрымалася, нарваліся на таго, хто і пасля катаванняў «виновным себя не признал»… Расстрэльвалі П.Шукайлу тамсама, дзе і «паэтаў пяшчотных струн, ледзяных гітар, пярыннага блажэнства…»

Увесну 1927 г. Ганна Брэская стала сяброўкай «Маладняка». Аднайменны часопіс аб'яднання друкуе яе верш «Над азёрамі», у якім паэтка апісвае свае родныя мясціны:

*Чуць хістаюцца сінія асокі,*
*Над азёрамі дымная муць.*
*Паглядзі, як у небе высокім*
*Зоры золатам кросны снуюць.*

*А у далях сівыя асіны*
*Нечуваным акордам звіняць,*
*Б'юцца вёслы ў вадзе цёмна-сіняй,*
*Месяц бераг ласкава абняў.*

*Туманы шэры змрок разаслалі…*
*Змоўкла ўсё, нават вецер сціх…*
*Ціха к берагу човен прычаліў,*
*Золак раніцы ўсход асвяціў…*

У чэрвені 1927 г. на літаратурнай старонцы «Чырвонай Полаччыны» з'яўляюцца сяброўскія шаржы Крушыны (Я.Скрыгана). У аснову пародыі на Г.Брэскую быў узяты яе верш «З каўказскіх напеваў»:

*Я спяваю аб светлай вясне*
*Паміж гор, дзе цякуць раднікі.*
*У маіх думках калышацца хмель,*

*У маіх песнях — ізноў васількі…*

Увосень 1927 г. «Чырвоная Полаччына» змяшчае верш Г.Брэскай, у якім праявілася неадназначнасць яе адносін да вядучага «Вершаванай старонкі» газеты Петруся Броўкі:

*…А па-твойму –*
*ўсё проста і ясна:*
*шчасце — горн,*
*а жыццё гэта кузня;*
*перазвоны, напевы і лязгі,*
*эх, Пятрусь!*
*сінявокі Пятрусь мой!*

У тым жа годзе другі літаратурна-мастацкі альманах Полацкай філіі «Маладняка» «Росквіт» разам з творамі П.Броўкі, Т.Хадкевіча, С.Хурсіка, Я.Відука, С.Сямашкі[1] друкуе вершы Г.Брэскай «Не — восень на мяне не веяла журбой…», «Настурцыі» і ўжо вядомы «Зялёны свет».

У 1928 г. літаратурнае выданне Полацкай філіі «Маладняка» альманах «Зарніцы» (тры літаратурныя часопісы на невялікі Полацк — актыўная ж была філія!) друкуе вершы Г.Брэскай «Ліпнёвае» і «Чырвоны мак»:

*Чырвоны мак*
*абвеенай галоўкай*
*ківае мне, як стары добры сябра…*

Недзе ў гэты час разам з іншымі пачынаючымі паэтычнымі талентамі Максім Гарэцкі адзначыў і Ганну Брэскую: «Найбольш асабістая лірыка ў  Маракова, Плаўніка, Маркавай, Вішнеўскай, Пфляўмбаум[2] і Брэскай…”

15 верасня 1928 г. паэтка выходзіць з «Маладняка», але працягвае друкавацца ў часопісе аб'яднання:

*Над зялёнай*
*Над палянай*
*Заблудзіўся*
*Месяц п'яны,*
*І туман сінявалосы*
*Распусціў*

*Густыя косы…*

«Прымітыў»[1]

Відаць, маючы на ўвазе падобныя вершы, Макар Шалай пісаў: "Хочацца даць Г.Брэскай маленькую параду: не станавецеся на калені перад Ясеніным, асабліва зараз, калі Ваш талент толькі пачынае фармавацца…" Далей, праўда, крытык усё ж удакладніў: "Трэба зазначыць досыць сур'ёзныя адносіны Брэскай да фармальнай апрацоўкі сваіх вершаў…"[2]

Апошнія, як і першыя, вершы Г.Брэскай, якія дайшлі да нас («Вясна» і «Хочацца жыць»), з'явіліся ў 1931 г. у «Беларускай работніцы і сялянцы»:

*Помню чорныя ночы бяссоння:*
*стынь і мгла…*
*… Я адна…*
*Муж у піўной,*
*муж з другой.*
*У калысцы галодны дзіцёнак.*
*А на сэрцы –*
*тупы боль…*

Мабыць, гэты верш сёе-тое гаворыць, чаму паэткі не было чуваць увесь папярэдні 1930 г.

Далейшы лёс «полацкай прыгажуні» (як называў яе В.Маракоў) застаўся невядомы.

## Наля Маркава

Магчыма, даследчыкі яшчэ павінны будуць разабрацца, чаму беларускім пісьменнікам, якія ўдзельнічалі ў літаратурным працэсе 1920-х — 1930-х г., а пасля 2-й сусветнай вайны па вядомых прычынах апынуліся ў далёкіх Злучаных Штатах Амерыкі, там, на чужыне, пісалася. Успомнім прозвішчы Антона Адамовіча, Наталлі Арсенневай, Уладзіміра Дудзіцкага, Міхася Кавыля, Аўгена

[1] Маладняк. 1929. № 4.
[2] ……………………………………

Калубовіча, Яўхіма Кіпеля, Масея Сяднёва, Уладзіміра Сядуры, Сяргея Хмары.

І таму дагэтуль застаецца нерастлумачаным, чаму літаратары, якія хоць і выехалі з Бацькаўшчыны, але працягвалі жыць у той жа "адзінай і недзялімай" дзяржаве, як літаратурныя асобы зніклі, амаль не пісалі: Хведар Бужан[3], Аляксандр Вазнясенскі[4], Даніла Васілеўскі[5], Наталля Вішнеўская, Міхайла Грамыка, Аркадзь Мардвілка, Альберт Паўловіч, Пятро Сакол[6], Сымон Хурсік.

Трэба тут успомніць і Налю Маркаву.

Наста (сапраўднае імя паэткі) Паўлаўна Маркава нарадзілася 25 снежня 1906 г. у мястэчку Лесавая Буда, што на Бабруйшчыне (звесткі пададзены да Першага з'езду "Маладняка" самой паэткай), у сям'і сялян. Спачатку яна выхоўвалася, па звестках І.Багдановіч, у сям'і дзеда, а потым — у цёткі ў Прапойску (цяпер Слаўгарад), дзе і пайшла ў пачатковую школу. Пасля заканчэння Грамадзянскай вайны Наля вярнулася дадому. Паступіла ў мясцовую сямігодку. Вучобу працягвала ў Рагачоўскім педтэхнікуме, з якога праз год перавялася ў Магілёўскі.

У Магілёве Н.Маркава асабліва захапляецца літаратурай. Спрабуе пісаць (1924). Неўзабаве становіцца сябрам Магілёўскай філіі "Маладняка"[7] (1925), а потым і адным з самых актыўных яе членаў.

18 лістапада 1925 г. у Магілёве адбылася першая акруговая канферэнцыя філіі "Маладняка". Сябра філіі пачынаючы паэт Васіль Леанідаў[8] у нататцы-паведамленні пісаў (Магілёўскі селянін. 1925 г., 29 ліст.): "Жывыя цікавыя пытанні, якія стаялі ў парадку дня, захапілі масу слухачоў (у асноўным гэта былі вучні магілёўскіх тэхнікумаў. — ***Л. М***.). Асаблівае ўражанне пакінуў даклад прадстаўніка ЦБ "Маладняка" т.[А.]Дудара "Два гады "Маладняка".

Праз тыдзень студэнтка трэцяга курса Магілёўскага педтэхнікума Наля Маркава едзе ў Мінск. У сталіцы пачынаючая паэтка ўдзельнічае ў I Усебеларускім з'ездзе паэтаў і пісьменнікаў. 29 лістапада 1925 г. "Магілёўскі селянін" і сталічная "Савецкая Беларусь" (з М.Лужаніным, П.Трусам, В.Казлоўскім) змяшчаюць яе першыя вершаваныя вопыты "У вёску" і "Да першага з'езда".

*Эх, далей стараніся, цемра,*
*З горада ў вёску лячу,*
*Дзе ўжо засвяцілі праменні*
*Сонца, зары — Іллічу!*

Пасля заканчэння з'езда "Маладняка" паэтка вяртаецца ў

Магілёў. Працягвае вучобу. У 1927 г. атрымлівае дыплом настаўніка і накіроўваецца на працу ў Мазырскую акругу. Але застаецца ў Магілёве. Неўзабаве ўзначальвае мясцовы піянерскі клуб... І, канешне ж, працягвае пісаць... Атрымліваецца нешта "маякоўска-ясенінскае":

*Думкі ўвосень*
*палошчуцца ў лісці,*
*радасці косы*
*праносяцца свістам...*
або:
*Сінь васільковая.*
*Далі іскрыстыя.*
*Цвецень кляновая.*
*Рань прамяністая...*

У канцы лютага — пачатку сакавіка 1927 г. на чарговай перарэгістрацыі Мінскай філіі "Маладняка" (старшынёй зноў выбралі М.Чарота, сакратаром — В.Сташэўскага) сярод 60 сяброў філіі сустракаем і прозвішча Н.Маркавай.

Вось урывак з артыкула пра творчасць маладых паэтаў, змешчанага ў дадатку да газеты «Беларуская вёска»: "Сэрца радуецца, чытаючы вершы маладзейшых маладнякоўцаў-пачынальнікаў. Вершы І.Плаўніка, В.Маракова, Ю.Лявоннага, З.Бандарынай, У.Хадыкі, Н.Вішнеўскай і Н.Маркавай сведчаць, што на мастацкім слове папярэднікаў узгадавалася і дужэе новая маладая літаратурная змена, якая даганяе, а часам і перасягае па ўдасканаленасці апрацоўкі, па глыбіні і якасці зместу наша "сярэдняе" літаратурнае пакаленне — першых закладчыкаў часопіса "Маладняк"[3].

Увесь 1927 г. Н.Маркава актыўна друкуецца дома ("Дняпроўскія ўсплёскі", "Магілёўскі селянін") і ў сталіцы ("Маладняк", "Полымя", "Чырвоная змена"). Як пісала сама Наля Маркава: "Я ў сугучнасць // сваіх песень // Заплятаю васількі".

Прыкмеціў маладую паэтку і Максім Гарэцкі. У кнізе "Маладняк" за пяць гадоў" (1928) ён называе яе лірыку "найбольш асабістай" і дадае, што і "асаблівыя надзеі (сярод «магілёўска-полацкіх» выхаванцаў «Маладняка» — Ю.Лявоннага, Н.Маркавай, У.Прыбыткоўскага, П.Броўкі і інш. — ***Л. М***.) можна пакладаць на Маркаву».

---

[3] Чырвоны сейбіт. 1927. № 8–9.

15 верасня 1928 г. паэтка (разам з З.Бандарынай, Г.Брэскай, А.Глінскай[4], А.Мялешкінай[5] і шэрагам маладых пісьменнікаў) выходзіць з «Маладняка».

Паводле некаторых звестак, у гэты час Н.Маркава паступіла ў БДУ. А ў канцы года стала сябрам БелАППа.

У 1929 г. (апошні вядомы аўтару твор паэткі датаваны менавіта гэтым годам) Н.Маркава выходзіць замуж (бярэ прозвішча мужа — Хмара) і пераязджае ў Ленінград. Праз год паступае ў Ленінградскі педінстытут, у якім у той час вучыліся Павел Пруднікаў і некаторыя іншыя пачынаючыя беларускія літаратары.

Пасля заканчэння Ленінградскага педінстытута (1934), Н.Маркава працавала ў розных дзяржаўных установах горада. У час другой сусветнай вайны знаходзілася ў эвакуацыі.

У 1944 г. вярнулася ў Ленінград. Была дырэктарам шэрагу школ. Але ў 1952-м стала настаўніцай «вячэрняй» школы. Найверагодней, Н.Маркава пацярпела пасля гэтак званага «ленинградского дела». Па гэтай жа справе энкавэдысты зноў успомнілі і пра іншую беларускую паэтку, якая ў той час таксама жыла ў Ленінградзе, — Наталлю Вішнеўскую. Жыццёвы шлях гэтых паэтак на чужыне склаўся па-рознаму. Яны нават, жывучы ў адным горадзе, не бачыліся. Але энкавэдысты ўсё ж знайшлі ў іх лёсе агульнае: абедзве паэткі друкаваліся ў час «беларусізацыі», а значыць, маглі «заразіцца» гэтак званай і, як яны лічылі, небяспечнай для іх ладу «нацдэмаўшчынай», маглі па-ранейшаму любіць Бацькаўшчыну, марыць пра яе незалежнасць…

Выратавала беларусак, магчыма, толькі смерць галоўнага інтэгратара…

Яшчэ ў студэнцкія гады Наля Маркава з надзеяй пісала:

*Маё сэрца не астыне*
*Ў смутку палыновым,*
*Бо іду я пуцявінай,*
*Пуцявінай новай!*

Але марам паэткі не суджана было збыцца.

[4] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.
[5] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

## Наталля Вішнеўская

Нарадзілася паэтка 3 мая 1907 г. у горадзе Коўна (цяпер Каўнас) у сям’і настаўнікаў. У час Першай сусветнай вайны, як і шмат беларускіх сем’яў, Вішнеўскія эвакуіраваліся у расійскую глыбінку — вёску Ісаплы Саратаўскай губерні (цяпер Самарская вобласць). У Расіі яны пражылі каля шасці гадоў. Там Наталля скончыла сямігодку, у якой настаўнічала яе маці і дзе, як потым успамінала Н.Вішнеўская, ужо з “дзесяці-адзінаццаці гадоў [яна] была кіраўніком (!) камсамольскага тэатра”. Пасля грамадзянскай вайны сям’я прыязджае ў Беларусь, на Случчыну. З краю паэтаў, як называлі Случчыну, і “паляціць яе першае слова”:

*Явар стан пахіліў над ракой,*
*Чуць ваду закрануў галіной,*
*У вясковай красе,*
*У брыльлянцістай расе*
*Задрамаў…*

*Месяц вынырнуў з хмар залатых,*
*Зазірнуў у люстэрка вады,*
*Заблукаў у кустох,*
*У маладзенькіх лістох*
*Загуляў…*

«Ноч»

У 1924 г. “светлавалосая <…>, па дзіцячых вершаваных кроках прыкмечаная Якубам Коласам [Н.Вішнеўская]” (выраз М.Лужаніна) паступае ў Мінскі Белпедтэхнікум, дзе пачынае вучыцца разам з Антонам Адамовічам, Андрэем Александровічам, Пятром Глебкам, Сяргеем Дарожным, Віктарам Казлоўскім, Максімам Лужаніным. Частымі гасцямі тут былі Я.Купала, М.Чарот, былыя выпускнікі П.Трус, А.Александровіч. У друку пачалі з’яўляцца і першыя творы Н.Вішнеўскай. Паэтка ўступае ва Усебеларускае літаратурна-мастацкае аб’яднанне “Маладняк”, удзельнічае ў Першым з’ездзе аб’яднання…

З кнігі С.Шушкевіча «Вяртанне ў маладосць»: «Чуецца вясёлая гамонка (дзейства адбываецца ў Інстытуце Беларускай Культуры. — ***Л. М***.)… У.Прыбыткоўскі <…> вельмі таропка і адрывіста гаварыў і, нібы крыламі, размахваў рукамі. З.Бандарына часта

перабівала яго, але і з яе гаворкі [ніхто] не мог зразумець нічога. Маўчаў нізенькі Я.Туміловіч... С.Дарожны зрэдку перабіваў усіх жартамі. І.Барашка часта паглядаў на гадзіннік... Н.Вішнеўская грэлася каля кафлянай печы...»[6]

У 1926 г. выходзіць сумесны зборнік вершаў Наталлі Вішнеўскай, Яўгеніі Пфляўмбаўм і Зінаіды Бандарынай. У вершы «Беларусь» (датаваны ліп. 1925 г. — росквіт беларусізацыі), маладая паэтка з надзеяй пісала:

*Ужо галоваў не схіляць болей*
*Беларусі магутнай сыны,*
*Калі шчасце пазналі праз волю,*
*Калі ззяюць ясныя дні...*

Вядомы літаратуразнавец, педагог і крытык М.Байкоў так сустрэў выхад «першага за час рэвалюцыі зборніка жаночай паэзіі»: «[“Вершы”] робяць вельмі прыемнае ўражанне і з’яўляюцца гарантыяй поспеху паэтак у далейшым...”[7]

На працягу вучобы Н.Вішнеўская даволі актыўна друкуецца ў “Маладняку”, “Полымі”, “Савецкай Беларусі”, ”Чырвоным сейбіце”. Разам з аднакурснікамі і сябрамі-маладнякоўцамі выступае ў клубах, школах, на рабфаках, заводах. Пачынае пісаць маладая паэтка і даволі цікавую прозу... На апошнім курсе (1928) Н.Вішнеўская выходзіць замуж за сакратара “Маладняка” Алеся Дудара.

А.Звонак так апісваў свайго сабрата па пяры: «Малады, круглатвары, з усмешліва-цёплым позіркам, высокі і зграбны... вочы ясныя, усмешлівыя, з нейкімі іскрынкамі. Голас мяккі, задушэўны, здаецца, крыху з прашэптам... Гэта і ёсць Алесь Дудар»[8].

Неўзабаве маладога мужа арыштоўваюць і высылаюць у Смаленск, а ягонай жонцы, нягледзячы на ярлык “ворага народа”, усё ж удаецца паступіць у БДУ (1929). Яе творы не з’яўляюцца ў друку, яна не можа знайсці працы, часам галадае... У 1930 г. “Маладняк” і “Савецкая Беларусь” зноў пачынаюць друкаваць вершы Н.Вішнеўскай, але па “сямейных абставінах” (І.Багдановіч) паэтка пераязджае ў Маскву (1930) і назаўсёды перастае друкавацца...

У расійскай сталіцы яна знаёміцца з А.Звонакам, які пасля ўспамінаў: “Задуменная, з блакітнымі вачамі і залатымі косамі, скручанымі ззаду ў вузел, паўнаватая і рослая, спакойная і

[6] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць.
[7] Маладняк. 1926. № 3.
[8] Звонак А. Неспакойныя сэрцы. Мн., 1973.

разв226лівая Наташа Вішнеўская, якая праз некалькі гадоў стане маёй жонкаю”[9].

Восенню 1936 г., пасля арышту мужа, энкавэдысты пачалі цікавіцца і Н.Вішнеўскай. Праз год «адкрывальніка» П.Броўкі А.Звонака асудзяць да дзесяці гадоў канцлагераў, а Н.Вішнеўскую хоць і выпусцяць, але паўторнага арышту яна пазбегне толькі дзякуючы падказцы знаёмага следчага. Разам з маці яна падаецца на Украіну, потым у Ленінград…

Там, у паўночнай сталіцы, яна пазнаёміцца з Янкам Бобрыкам (стрыечны брат С.Грахоўскага і суаўтар А.Звонака па першым для абодвух зборніку “Вершы”). У час блакады яму некалькі разоў прапаноўвалі эвакуіравацца ў тыл, жонка Наталля Вішнеўская ўпрошвала разам паехаць у Горкаўскую вобласць… «Я нікуды не паеду. Паміраць, дык у Ленінградзе, — упарта адказваў Янка…»[10] (па сведчанні С.Грахоўскага).

У жніўні 1942 г. Янку Бобрыка знойдуць на вуліцы, паміраючага ад голаду, адвязуць у шпіталь, але дапамагчы ўжо не змогуць… 25 жніўня 1942 г. яго не стане.

Пасля заканчэння вайны Н.Вішнеўская вярнулася ў Ленінград. Працавала ў адной з бібліятэк горада. Выгадавала двух дзетдомаўскіх хлопцаў (абодва сталі капітанамі далёкага плавання). У 1962 г. Н.Вішнеўская выйшла на пенсію. Да літаратурнай дзейнасці яна так і не вярнулася. 1 мая 1989 г. яна адышла…

У далёкія дваццатыя гады маладая паэтка пісала:

*Так жыццё ў віхурах дагарыць і згасне,*
*І сплывуць надзеі воскам ў нябыццё…*

Гэтыя радкі, магчыма, як найлепей падыходзяць да лёсу Наталлі Вішнеўскай…

## Лісты Наталлі Вішнеўскай да Сяргея Грахоўскага

Недзе ў канцы 1970-х г. рыхтаваўся да друку чарговы пісьменніцкі даведнік. Разам з нешматлікімі (цудам засталіся жывыя) “старажыламі” ў падрыхтоўцы выдання прымаў удзел і Сяргей

[9] Тамсама.
[10] Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986.

Грахоўскі. Тады вынікі яго працы не паспелі ўвайсці ў даведнік, што выйшаў у 1981 г. Толькі ў наступным выданні (1994) з'явіліся аўтары Алесь Розна, Кастусь Шавель і некаторыя іншыя, якія па розных прычынах (не быў членам Саюза, мала паспеў надрукаваць да арышту і інш.) раней туды не ўваходзілі. Не забыў С.Грахоўскі і пра вядомага ў 1920-х — 1930-х г. паэта-маладнякоўца, свайго першага "вуснага рэдактара" і стрыечнага брата Янку Бобрыка, які памёр з голаду ў блакадным Ленінградзе. Сяргей Іванавіч ведаў, што ў горадзе на Няве жыве ўдава паэта, таксама былая маладнякоўка Наталля Вішнеўская. Праз Алеся Звонака быў здабыты адрас, і хутка паляцеў першы ліст. Неўзабаве прыйшоў адказ. Завязалася перапіска…

Лісты Н.Вішнеўскай (захоўваюцца ў БДАМЛіМ) цікавыя не толькі невядомымі выпадкамі і звесткамі з жыцця "карыфеяў" Я.Купалы, Я.Коласа, А.Дудара, П.Труса і некаторых іншых вядомых пісьменнікаў. Лісты каштоўныя найперш разважаннямі чалавека, які на працягу пяцідзесяці гадоў жыў на чужыне, не змог прадоўжыць сваю літаратурную дзейнасць, але Бацькаўшчыну не забыў, "сумаваў па роднай Нямізе".

**20 снежня 1979 г.**

Спачуваю Вашаму расчараванню ад Глуска (Радзіма С.Грахоўскага і Я.Бобрыка. — **Л.М**.). Канешне ж, час бяжыць так, што ад нашага дзяцінства нічога не застаецца. Я вось таксама ўвесь час імкнулася пабываць у сваім дзяцінстве — Куйбышаўскай вобласці. Ёсць там такое вялікае сяло Ісаплы, якое калісьці Пётр I купіў у татар за два фунты чаю.

Нас туды занесла з Літвы ў 1915 г., калі беглі ад немцаў і дзе пражылі да 1922 г. Само сабою і ўражанняў ад таго часу застаўся цэлы кораб. Там застала нас рэвалюцыя, там пабывалі і пад Калчаком і пад чэхамі. Там праходзіў і Чапаеў. Там жа я і вучылася і ў 10—11 гадоў была кіраўніком камсамольскага тэатра. Маці вяла драматычны [гурток], дзе побач з самадзейнымі акцёрамі былі і прафесіяналы, занесеныя туды галадухай і вайной з Самары.

[Скажам] ішоў Астроўскі і Чэхаў, а нам патрэбна была вайна, страляніна, агітка. І няважна, што ў нашых акцёраў на сцэне адклейваліся вусы [або] забітыя падалі раней, чым лясне за кулісамі дошка. Усё ўспрымалася як сапраўднае, блізкае. Нам пляскалі, а мы радаваліся, і радасна і весела было ўсім.

Вось туды і пацягнула мяне. Хацелася паехаць. Але ў час

адумалася. Нікога знаёмых там ужо не засталося. Лясы дубовыя, што былі на высачэзных гарах і дзе яшчэ ў [19]15 годзе бадзяліся сапраўдныя разбойнікі, мабыць, павысякалі. Кавыльныя стэпы, мабыць, заараді і, канешне, ад цудоўнае дзіцячае казкі нічога не засталося. Вось можа таму мне і ў Мінск ехаць страшнавата. Што я там застану? Чужы, прыгожы горад і нікога, хто помніць мяне, апрача Вас ды Вольгі Іванаўны (дачка І.Зенюка, настаяцеля Козыраўскай царквы ў Мінску. — ***Л. М.***). Вядома, гэта не прычына, і абавязкова прыеду хаця б проста праехаць уздоўж і папярок любімага горада.

А ведаеце, у мяне тут некалькі гадоў назад такая цяга была перабрацца ў Мінск, што ледзь не пачала абмен, але потым спалохалася: адарвацца ад дзяцей…

**17 лютага 1980 г.**

Усякая памяць аб дарагім, блізкім чалавеку дужа дорага. <…> Я не плакала, бо не ўмею. Але зноў забалела душа. Я дагэтуль не магу дараваць сабе, што не вывезла Яна (Я.Бобрыка. — ***Л. М***.) гвалтам. Не хацеў ехаць. Спачатку баяўся, што будзе потым, ці не страцім гэтую халупу. Па[сля] сарваўся добраахвотнікам на фронт. Яшчэ перад вайной я ўсё яго прасіла прайсці пераатэстацыю ў РВК. Ён мог быць аднесены да камсаставу. Не захацеў. «Мяне не мабілізуюць па здароўю». Ну і ўрэшце пайшоў салдатам. А які з яго салдат <…>, калі яму і вінтоўку цягаць <…> нельга. У фінскую вайну яму ж зрабілі аперацыю… Божа мой, колькі я тады гора хапіла! Адвезла ў бальніцу безнадзейнага. Урачы былі ўсе чужыя, ваенныя. Баяліся рэзаць і шэсць гадзін трымалі яго ў такім цяжкім становішчы. Нарэшце адзін урач адважыўся на аперацыю. І вось трое сутак я прасядзела каля пасцелі, чакаючы апошняга слова…

Колькі давалося перажыць. Вярнулі яго з таго свету, яшчэ не ачуняў як мае быць і на табе — салдат. Ну і вынік не прымусіў сябе чакаць. Праз месяц зноў шпіталь. Праляжаў месяц, праз тры тыдні службы зноў шпіталь. Забраў яго да сабе <…> камісар гэтага шпіталю і трымаў яго там да вясны. Ну а вясной галадуха дала пра сябе знаць.

Дырэктар дзіцячага дома, дзе я тады працавала, прапанаваў ехаць нам усім. Хацеў зрабіць Яна дырэктарам або выхавацелем, абы толькі выехаць з горада, але Ян не захацеў: «Умру, но в Ленинграде». Была магчымасць выехаць з тэатрамі, [зноў] не захацеў.

Я ж увесь час таксама не хацела выязджаць. Працавала тады

ў райкоме, загадвала бібліятэкай. Нашы ўсе інструктары павыязджалі яшчэ ў ліпені, адпраўлялі іх сем'ямі, [з] хатнім барахлом. Я ехаць адмовілася. У жніўні сакратар райкома, адправіўшы свайго зама — другога сакратара, — вярнуўшыся з аэрадрома, плюхнуўся ў мяне ў крэсла і з радасцю апавясціў: «Ну, Наташа, отправил последнюю жидовку, теперь заживем». Ну і «зажылі» — бамбёжкі, абстрэлы. але дух быў бадзёры — работа ішла сваёй чаргой. Так цягнулася да палавіны зімы. Потым яшчэ ўвосені перасталі хадзіць трамваі і стала цяжка. [Дабірацца] мне [трэба] было 8 км праз увесь горад, бліжэй да фронту. 125 грам хлеба і нічога больш — было дужа цяжка. Але прахадзіла я так да красавіка [19]42 г., калі доктар катэгарычна забараніў мне такія прагулкі. Проста сказаў, што я аднойчы застануся на дарозе. Вось тады я і перабралася блізка ад дому ў дзіцячы дом. Тут таксама хацела заставацца, але дырэктар літаральна выпхнуў мяне ў эвакуацыю. Многа людзей ён выратаваў такім чынам. А вось Ян не паехаў.

Гэта балячка на сэрцы не загоіцца! <…>

Страшна крыўдна, што не маю яго магілкі. Але калі ўспомню, як вывозілі на машынах ледзь прыкрытыя трупы і клалі іх у траншэі, прыходзіцца маўчаць і не скардзіцца. Яшчэ ў [19]46 годзе мы са студэнтамі раўнялі гэтыя страшныя траншэі, засыпаючы іх. І хто яго ведае, на якія могілкі трапіў Яначка. <…> Так вось і засталося ўспамінаць да болю…

**9 сакавіка 1981 г.**

І сама па сабе памяць пра Купалу — светлы ўспамін. Я прыпамінаю ўсю яго нейкую непасрэднасць. Аднойчы, помню, цэлая кампанія — Дудар, Александровіч, здаецца, Баранавых і Хадыка, — накіраваліся з Купалам да яго дадому. Цёці Уладзі не было дома і ён хацеў нас пачаставаць чым-небудзь. Прыпомніў, што ёсць яблыкі, якія прыслалі яму з калгаса, і загадаў хлопцам цягнуць [іх] з веранды. Двое схапілі вялізную скрынку, прывалаклі і ўзграмаздзілі на паліраваны стол у сталовай. Я паспрабавала пратэставаць, дзе там! Усе, ды і [Купала] таксама, былі пад мухай. Ну [і] пачаўся пачастунак спелай, жоўтай антонаўкай.

Чамусьці запомніўся гэты эпізод…

А потым <…> [Я.Купала] у самы цяжкі для мяне час, калі быў высланы Дудар (у 1929-м. — ***Л. М.***), аддаў мне сваю пуцёўку на … (неразборліва. — ***Л. М.***), куды мы ездзілі разам з А.Гурло і П.Трусам.

Усё гэта прыпомнілася пасля Вашых успамінаў. Харошы быў чалавек. Толькі я дагэтуль не ведаю, як ён памёр і дзе. Нешта гаварылі пра Маскву, ці праўда гэта?

**1 ліпеня 1981 г.**

Крыўдна стала за Нямігу. Няўжо не маглі захаваць гістарычную рачулку? Адзець яе ў граніт, паставіць памятны знак. Шкада...

Наконт даведніка не клапаціцеся. Што ён мне дасць? Старых памятаю і так, а новых усё роўна не ведаю. А тое, што я не папала ў яго, дык гэта ж справядліва. Што мы там такое зрабілі, каб красавацца на яго старонках? Трэба было пісаць. А вось абставіны зламалі. Доўгія гады работа з ранку да ночы, адарванасць ад літаратурнага жыцця, 1952 год (Н.Вішнеўская праходзіла па “Ленинградскому делу». — ***Л. М***.) і інш. Усё гэта не спрыяла творчаму настрою. Да таго ж гадоў 20 з лішкам таму назад наш агульны прыяцель З. (А.Звонак. — ***Л. М***.) сказаў, што пачынаць мне ўжо позна, і зусім адбіў ахвоту брацца за пяро. Так вось і сталася. Калі з’явілася шмат часу, пачала зрэдку крэмзаць паперу, але гэта толькі для сябе. Так што няма чаго і крыўдзіцца...

**16 снежня 1981 г.**

З [цікавасцю] прачытала, што хоць і сціпла, а ўсё ж успамінаюць нашых карыфеяў. Я думала, што даўно яны ў забыцці. І ці даўно мяне тут пыталі «с пристрастием» аб сувязі маёй з Чаротам, Зарэцкім, Вольным? Як час змяняе ўсё. Даволі часта бачу па тэлевізары Мінск, прыгожы, казачны, але не мой. Яшчэ Броўка гаварыў, што ён страшна абрусеў. А дзе ж намячаецца яго музей? Фу ты, “музей”! Не хочацца думаць, што яго няма. А як там жывыя — Скрыган, Пфляўмбаўм, яе палавіна? Ці не ведаеце чаго-небудзь пра жонку Зарэцкага, Шукайлы?..

**10 кастрычніка 1983 г.**

А што да Л. Б. (Лукаш Бэндэ? — ***Л. М***.), то не звяртайце увагі. Мне дужа непрыемна, што з-за мяне між Вамі прабегла чорная

кошка. Але што я магу зрабіць? Нейкія афрыканскія страсці, рэўнасць нічым не апраўданая.

Прайшло столькі гадоў, чаго ж цяпер грызці пазногці ды кідацца на ўсіх?

Ён жа даўно абжыўся, усталяваў свой побыт, мае прэстыжную жонку. Чаго ж яшчэ трэба?

Я нічым не хачу яго чарніць, крый Божа, але, мабыць, у яго стаў зусім нязносны характар.

Шчыра кажучы, мне шкада гэтае жанчыны. Кажуць, яна неблагі чалавек. Собіла ж яе ўлезці ў гэты хамут. Мабыць, нясоладка ёй. Здзіўляе гэтая заўзятасць. А быў жа такі вясёлы, харошы таварыш… (? — ***Л. М.***)

**23 чэрвеня 1984 г.**

Я не ведала, што Вашым шэфам была цёця Уладзя. Харошая яна была жанчына, з шырокім кругаглядам, без цені мяшчанства і сапраўды добрым сэрцам.

А мяне цягнуў Колас, якому я таксама ўдзячна ўсё жыццё і якога так і не аддзячыла…

**15 ліпеня 1984 г.**

Як добра выглядае на свае 80 Адась (Адам Русак. — ***Л. М.***). Успамінаю, як хлапчуком забягаў да нас у Пясочнае (цяпер Капыльскі раён Мінскай вобласці; у вёсцы Пясочнае таксама нарадзіўся паэт Анатоль Астрэйка. — ***Л. М.***) і мая мама, прадракаючы яму дарогу “у людзі”, вучыла яго, як трэба трымаць відэлец і нож, растлумачвала яму незнаёмае слова, сэнс якіх ён запісваў. Слаўнае было цыганё. Як бяжыць час!

А вось Алесь (А.Звонак. — ***Л. М.***) мне зусім не спадабаўся. Твар такі, нібы ён злы на ўвесь свет…

**1 лістапада 1984 г.**

З нейкаю трывогаю чакаю, як пройдзе перадача пра Яначку. Хаця б усё гладка сышло. Гэта болька мая не загойваецца, а чым старэй — тым балючай. Буду чакаць Вашай вестачкі…

Некалі Анатоль Вольны гаварыў: “Не калупайся ў носе — kroў пацячэ”. Я з усіх сіл стараюся, але часамі здаю, як, напрыклад, сёння. Ноч не спала напралёт, і так не хочацца жыць. Наплываюць адкуль нейкія крыўды, непатрэбныя ўспаміны. Разумею, што гэта старасць, што трэба з гэтым змагацца, але так хочацца прытуліцца да роднага пляча!..

**30 сакавіка 1986 г.**

“Так і было” (Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986. — ***Л. М.***) чытаецца лёгка, цікава, але застаецца цяжкі смутак па тых, каго так рана прыбрала зямля.

Я пакуль што выхапіла з усяго ўспаміны пра Броўку, Дубоўку, Куляшова, Пушчу, Пальчэўскага.

Ваша кніжка — светлы Рэквіем адышоўшым.

А я таксама ўспамінаю высокага, хударлявага, *застенчивого* хлапчука ў доўгім паліто. Гэта Вы засталіся ў маёй памяці такім, калі з’явіліся на маладнякоўскім небасхіле. Эх, дзе нашы 17?

**18 жніўня 1986 г.**

Некалі ўсё баялася, ці дацягну да 60, потым — да 70, 75, 80. А цяпер замахнулася на 90! Да чаго і Вас заклікаю.

Сёння быў такі чароўны дзень, што толькі жыць ды жыць…

**15 красавіка 1987 г.**

Пачала чытаць (прысланую С.Грахоўскім кнігу. Магчыма, “Снягі”. — ***Л. М.***), расхвалявалася. <…> Гэта ўздыбіла ўсё ў памяці і прымусіла перажыць [мінулае] нанава. У мяне ж гэтая паласа няшчасця пачалася ў 1929 годзе і цягнулася да 53-га. Усе гады “пад калпаком”. Дзе ж тут быць здароўю!

У Барыса (Б.Мікуліча. — ***Л. М.***) мільганула ўскользь непрыглядная роль Самуйлёнка. Якою ж агіднаю яна была на самай справе. Ён жа ўвесь час круціўся каля Зв. (А.Звонака. — ***Л. М.***). Як я яго папярэджвала, як асцерагала ад гэтага сяброўства. С. (Э. Самуйлёнак. — ***Л. М.***) проста дакучаў, а часам, калі не мог быць побач сам, падсылаў сваю дурненькую Марыньку (жонка Э.Самуйлёнка. —

***Л. М***.), якая, канешне, нічога не разумела. Да чаго ж ён быў непрыемным чалавекам!

Незразумелыя мне і паводзіны Зарэцкага, пра якія піша Ш. (С.Шушкевіч. — ***Л. М***.). Што гэта — хацеў дапамагчы, ці ўгробіць? Колькі ўсяго незразумелага засталося!

Шчыра пагаравала аб Адасю (А.Русак. — ***Л. М***.). Адыходзяць усе пагодкі. Я ж яго ведала яшчэ ў дзяцінстве. Забаўнае было цыганё. Пазней [стаў] падобны да масцітага кампазітара ці дырыжора. А быў харошым музыкантам. І як далася яму гэтая музыка, адзін Бог ведае. Галадаваў страшэнна, пакуль вучыўся, а ўсё ж не кінуў вучобы. Хай зямля яму будзе пухам, харошы быў чалавек…

Скрыгану перадайце маю падзяку за памяць і добразычлівасць, пажадайце яму самага галоўнага — здароўя. А што да вершаў, то ці варта павялічваць колькасць макулатуры. Хопіць і без мяне. Я дужа крытычна адношуся да сваёй пэцканіны…

**21 траўня 1987 г.**

Толькі што атрымала і з болем у сэрцы прачытала Вашы поўныя горычы радкі. Божа мой, за што, за якія грахі людзям давялося перажыць такое?

За якія грахі і мы, і ўсе нашы трапілі ў гэты страшны млын?! І як жа <…> стала магчыма на ўвесь голас сказаць пра гэта?

Слёзы закіпалі ў вачах ад вершаў, а яшчэ больш ад Вашага выгляду. Што з Вамі, што робіцца ў Вас дома, хоць бы падзяліліся. Уся цеплыня майго сэрца з Вамі, і ўвесь мой непакой — за Вас. Няўжо дома не разумеюць, як трэба Вас берагчы ад усяго непрыемнага? Наша ж жыццё зараз, як тая свечка — дыхні мацней, і няма.

Я сёе-тое стараною чула, што ў Вас не ўсё добра, але ўсё чакала, што Вы калі-небудзь падзеліцеся сваімі нягодамі са мной. Прабачце, калі лезу ў душу, але ж я не чужая Вам.

У мяне таксама бывае не ўсё гладка. Але Толя (адзін з прыёмных сыноў. — ***Л. М***.) цацкаецца са мной, не магу паскардзіцца.

3 траўня адсвяткавала сваё 80-годдзе. Сабраліся ўсе мае выхаванцы, была цеплыня і лепшыя пажаданні. Назаўтра прыйшлі прывітаць з партарганізацыі, суседзі.

Адным словам, сядзела ўся ў кветках, але чамусьці потым захацелася зараўці ўголас, як простай бабе, хоць я ніколі не плачу і не разумею жаночых слёз. Столькі пражыла, пройдзены такі шлях, Божа мой! А што зроблена? Усё жыццё растрачана на нейкія дробязі, на

вечны страх, на здабыванне кавалка хлеба. Заядае адзінота. Быў бы побач Яначка, як усё засвяцілася б.

Але не ныць. Хопіць з Вас і свайго. Як Ваша сэрца, можа ў лесе спакайней і лягчэй стала?

Я ўжо тыдзень на нагах. Збіраюся на дачу, хоць халадзіна не абяцае нам нічога добрага. Жыву па газеце, [у якой] друкуюць цяжкія "магнітныя" дні з перасцярогай. Вось і карыстаюся імі, каб быць "на чеку". Да смерці надакучыла ўсё гэта: і дактары, і лекі. Хачу аднаго — глыток свежага паветра. Я ж яшчэ нікуды не выходжу, дыхаю праз фортку. Ну, але [хутка] канец маім гарадскім пакутам, толькі б здолець вярнуцца.

Дзякую, дзякую за газету. Пас[прабуйце] зараз адпачыць ад усяго, паберажыце нервы.

Атрымала ліст ад нейкай Ірыны Багдановіч. Яна піша ў бібліяграфічны зборнік пра некалькіх паэтаў і просіць маіх успамінаў пра іх, а я многіх і не ведаю зусім. Хоча нават прыехаць у Л[енінгра]д, каб дазнацца пра літ[аратурныя] справы 20-х гадоў. Я адаслала яе (прабачце) да Вас і Звонака. Яе цікавіць Туміловіч, Падабед, Дубовік і інш. А што я магу сказаць пра іх, калі сама пра іх нічога не ведаю. Вось так.

Ну, усё. Жадаю Вам толькі аднаго — добрага адпачынку, добрага настрою. Пішыце зараз на дачу, праз тыдзень спадзяюся быць там.

Абдымаю, Ваша Наташа.

**20 жніўня 1988 г.**

Зараз, калі ў нас мітынгуюць на плошчах <…> розныя "сталіністы", ды проста фашысты, якія выйшлі днямі з лозунгамі "бей жидов», хочацца крыкам крычаць, каб дайшло да гэтых падонкаў усё тое, што давялося перажыць…

У нас тут дайшло да пабоішча, вось Вам і гласнасць!..

**30 студзеня 1989 г.**

Пачалося з таго, што культпроп ЦК, з якім я была ў добрых адносінах, узяў мяне за горла, каб адмовілася ад Дудара. Галавач

надаўміў пайсці да заг[адчыка] камісіі парткантролю (не помню ўжо прозвішча). Я вечарам пабегла ў яго палац, не сустрэла ніводнага чалавека, уварвалася да яго ў кабінет, расказала ўсё. Ён супакоіў, назаўтра даў вымову культпропу, а я з гэтым і засталася. Без граша, без працы. Некаму ж тады было надаўміць, што трэба ісці ў пасудамыйкі, а не на культурную работу. Дудар галадаваў у Смаленску, але абурыўся, калі я прапанавала яму ісці на фізічную работу. Вось такія дурныя мы былі і галадавалі страшэнна.

Аднойчы, набраўшыся нахабнасці, я сунулася на радыё, дзе была вакантная пасада дыктара. Дырэктрыса, падобная на маленькую малпачку, страшна абрадавалася, і адразу сунулі мяне за пульт на перадачу. Вяла яе з Новікавай. Сяк-так прайшло. Назаўтра прыйшла раніцай, а ў калідоры мяне стрэла тая самая дырэктрыса, замахала лапкамі і абвясціла: “Она уже приехала, выходит на работу». Ну, мне стала зразумела, што тут чакаць няма чаго. Прозвішча маё прагучала, мабыць, як выстрал.

Зноў сядзелі голадам. Маці паспрабавала ўстроіцца на гузікавую фабрыку. Далі парабіць толькі 2 дні і з прабачэннямі выперлі. Вось так.

У 37-м, пасля мае адсідкі, нечакана сустрэў мяне маладзенькі турэмны следчы і шапнуў, каб я хутчэй выязджала, бо рыхтуецца новая хваля арыштаў і мне тут ужо не здабраваць. Мы з мамай тады выехалі ў лясную глухамань на Украіну да цёткі, там нейкі час перажылі.

Вось колькі ўскалыхнулі вашы “Снягі”. Ды хіба ўсё апішаш. Мне не давялося перажыць усяго, што выпала на вашу долю, але таксама хапіла, па самае горла. Адно «ленинградское дело» чаго варта!..

Усё. Канца-краю не будзе…

**Ліст не датаваны. Відавочна, 1980-я г.**

Хачу ў Мінск і неяк яшчэ вырвуся, але ж гэта не мой Мінск. Разглядаю яго ў перадачах і не бачу ніводнага знаёмага кутка. І, прызнацца, сумую, нават па роднай Нямізе. Неяк скроены чалавек, што яго цягне на старое папялішча. Але ж на старое, а тут усё прылізанае, новае, чужое. Хочацца пабываць на блізкіх магілках — Я.Коласа, П.Труса. [Паўлюк], небарака, незадоўга перад смерцю наказваў мне, каб я ля яго магілы пасадзіла бярозку. Ён чуў, што нядоўгі яго век.

Калі мяне яшчэ помніць Мікола Хведаровіч, перадайце яму маё прывітанне, а пажаданне трымацца як мага даўжэй.

Так, так, усе мы, аказваецца, ужо састарыліся і не агледзеліся, як жыццё ідзе на закат. Мала засталося, але будзем бадзёрымі да канца…

**1 жніўня 1989 г.**

Уважаемый Сергей Иванович. Сообщаю Вам печальное известие: 3 мая с[его] г[ода] (в день рождения) умерла Наталья Вячеславовна. Умерла в больнице от острых язв желудка. Сообщаю Вам об этом по ее просьбе.

С уважением, Анатолий Васильевич (А.В.Іваноў — прыёмны сын Н.Вішнеўскай. — ***Л. М***.).

Усё сваё доўгае жыццё Наталля Вішнеўская сумавала па Беларусі, але вярнуцца на зямлю, дзе была знішчана большасць яе настаўнікаў, сяброў, аднакласнікаў, знаёмых, так і не рашылася. Уцёкі з Бацькаўшчыны, як цяпер мы ведаем, выратавалі не толькі Наталлю Вішнеўскую. Выратавалі, але — якім коштам? Адзін з моцных літаратурных талентаў 1920-х г. так і не расправіў крылы.

---

[1] **СЯМАШКА Сцяпан Пятровіч** [15(27).7.1898, в. Барылы (Катушанкі) Полацкага пав. Віцебскай губ. — 23.9.1965, Мінск], празаік, перакладчык, службовец, брат паэта Міколы Сямашкі (загінуў у 1941 пры абароне Оршы). Удзельнік Грамадзянскай і 2-й сусветнай войнаў. У друку выступаў у другой палове 1920-х — першай палове 1930-х г. З 1947 супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПСС. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Кр.: *БП*, т. 5.

[2] **ПФЛЯЎМБАУМ Яўгенія Эргаўдаўна** [1.11.1908, Мінск — 13.1.1996, Мінск], паэтэса, перакладчыца. Жонка паэта М.Лужаніна. З сям'і чыгуначніка нямецкага паходжання. Скончыла СШ у Мінску (1923), БДУ (1930). Для паэта і паліт. вязня А.Звонака "*Жэня Пфляўмбаум* [назаўсёды

засталася] *высокай, прыгожай, з жывымі і крыху іранічнымі вачыма ...»* (Неспакойныя сэрцы. Мн., 1973).


Пфляўмбаум Я. 1928 г.

3 **БУЖАН Хведар Сілавіч [**1890 (?) — ?], паэт, празаік, службовец. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Скончыў Гомельскі лесатэхнічны інстытут (1932). Сябра Бабруйскай філіі «Маладняка». З 1928 член БелАППа. Падчас 2-й сусветнай вайны ў эвакуацыі. Пасля жыў на Украіне.

4 **ВАЗНЯСЕНСКІ (УЗНЯСЕНСКІ) Аляксандр Мікалаевіч** [5(17).7.1888, с. Чукалы Сімбірскай губ., Расія — 16.1.1966, Казань], літаратуразнавец. З сям'і настаўніка. Скончыў Варшаўскі ун-т. З 1921 у Беларусі, дацэнт, з 1927 прафесар БДУ. З 1930 жыў у Маскве, з 1934 у Ташкенце. З 1939 дэкан гісторыка-філалагічнага ф-та Казанскага ун-та.

5 **ВАСІЛЕЎСКІ Даніла Мінавіч** [17.12.1889, в. Новае Сяло Віцебскага пав., цяпер Шумілінскі р-н Віцебскай вобл. — 28.12.1963, Феадосія, Крым], краязнавец, гісторык, літаратуразнавец, педагог. Вучыўся ў Полацкай настаўніцкай семінарыі, дзе ўвайшоў у гурток «Вястун ведаў», што знаходзіўся пад уплывам народніцкіх і сацыял-дэмакратычных ідэй. З 1910 пачаў збіраць фальклор на Полаччыне. Працягваў адукацыю ў Віцебскім настаўніцкім інстытуце. У 1914—15 на педагагічнай рабоце. Дасылаў свае допісы ў час. «Школа и жизнь» (псеўданім М.Доброведовский) і ў газ. «Наша ніва» (псеўданімы Шчыры і Вітэнь). З 1919 інструктар школ на Віцебшчыне, пасля — інспектар народнай асветы ў Оршы. У 1920-я г. актыўна далучыўся да краязнаўчага руху: у 1923 арганізоўвае Віцебскае губернскае бюро краязнаўства, з 1924 намеснік старшыні Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства. У 1925 стаў кандыдатам Аршанскай філіі «Маладняка». Публікаваўся ў газ. «Савецкая Беларусь» і «Придвинский край». З 1930 у

Магілёве, дэкан геаграфічнага ф-та Магілёўскага педінстытута. Удзельнік раскопак верхнепалеалітычнай стаянкі Бердыж. Даследаваў гісторыю бел. літаратуры XIX ст., бел. кнігадрукавання, пытанні этнаграфіі і сацыяльна-эканамічнага развіцця. Арыштаваны 12.12.1936. Абвінавачваўся ў прыналежнасці да «контррэвалюцыйнай групы» і ў тым, што ўкараняў «контррэвалюцыйную нацдэмаўскую прапаганду ў працэс выкладання», ідэалізаваў контррэвалюцыянера географа А.Смоліча, яго нацдэмаўскія падручнікі, «выхоўваў студэнтаў у антысавецкім духу». На папярэднім дазнанні В. сябе вінаватым не прызнаў. 20—21.4.1937 у Мінску адбылося пасяджэнне калегіі Вярхоўнага суда БССР, якая асудзіла яго да 5 гадоў пазбаўлення волі з забаронай пасля вызвалення 3 гады ўдзельнічаць у выбарах. Але ў Маскве гэты прысуд палічылі занадта мяккім, і 7.2.1938 ён быў апратэставаны нам. старшыні Вярхоўнага суда СССР В.Ульрыхам. 27—29.10.1938 справа В. была перагледжана судовай калегіяй Магілёўскага абл. суда. У выніку новага прысуду атрымаў 10 гадоў ППК. Этапаваны быў, верагодна, ва Ухта-Пячорскі, затым ва Ухта-Іжэмскі канцлагеры НКВД Комі АССР. Пасля вызвалення з 1945 тэхнік-геолаг у Варкуце. Праўдападобна, у канцы 1940-х асуджаны да высылкі ў Краснаярскі край. Канчаткова вызвалены 10.8.1954. Рэабілітаваны ў 1956. Апошнія гады жыў у Феадосіі. Асабовая справа В. № 5382 (перагледжана прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 13.6.1956) захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Разам з Д.Васілеўскім энкавэдысты арыштавалі і Я.Гаварушку.

**ГАВАРУШКА Яфім Максімавіч** [15.10.1911, в. Востраў Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 3.6.1992, Смалявічы Мінскай вобл.], празаік, публіцыст, педагог. Выхоўваўся ў дзіцячым доме ў Бабруйску. У 1935 скончыў МВПІ.

*«Любоў да мастацкага слова прывіў нам, вучням, выкладчык беларускай мовы і літаратуры Яфім Максімавіч Гаварушка. Гэта быў цудоўны педагог, паэт, артыст. Ён з захапленнем расказваў пра класікаў беларускай літаратуры Янку Купалу і Якуба Коласа»* (Сіняўскі І. Пераржытае. Вытокі песні. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1973).

Выкладаў бел. мову і літаратуру ў Смалявічах. Арыштаваны 9.12.1936. Асуджаны 2.10.1937 пазасудовым органам НКВД як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 6 гадоў ППК. Пасля вызвалення вярнуўся ў Смалявічы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 19.10.1955. Працаваў настаўнікам і дырэктарам дзіцячага дома. Уклаў кнігу рэпрэсаванага акадэміка І.Замоціна «Творы» (Мн., 1991). У апошнія гады жыцця складаў анталогію паэзіі рэпрэсаваных паэтаў «Песня падуладных». Пахаваны ў Смалявічах. Асабовая справа Г. № 9934-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[6] **САКОЛ Пятро** [сапр.: Масальскі Пётр Аляксандравіч; іншыя псеўданімы: Пятрусь; Пётра Сакол; 1(14).7.1905, мяст. Пасінь Люцынскага

пав. Віцебскай губ., цяпер в. Пасіене Лудзенскага р-на, Латвія — 6.7.1985, Рыга], паэт, перакладчык. Пасля сканчэння Себежскага вучылішча ў 1922—23 вучыўся ў Лудзенскай (Люцынскай) беларускай гімназіі. У 1923 пераехаў у Рыгу. Працаваў на часовых работах. Пачаў друкаваць вершы ў 1923. Быў карэктарам у газ. «Голас беларуса». У 1925—26 вучыўся на Беларускіх 2-гадовых настаўніцкіх курсах. У 1927 атрымаў месца настаўніка-практыканта ў Дзвінскай (Даўгаўпілс) беларускай гімназіі. Быў членам Партыі незалежных сацыялістаў і Латгальскага рабочага прафсаюза. З-за сваіх паліт. поглядаў у 1928 быў арыштаваны латышскімі ўладамі. Потым жыў пад наглядам паліцыі; пазбаўлены права выкладаць. У 1929 выдаў адзіны паэтычны зборнік. З 1929 да 1936 атрымліваў толькі часовую работу ў Ліепаі і Рызе (быў таксама карэктарам-перакладчыкам час. «Беларуская школа ў Латвіі»). Перакладаў рускую, украінскую паэзію, творы Я.Райніса. У 1935 спрабаваў апублікаваць зборнік перакладаў латышскіх дайнаў (народных песень). З 1936 працаваў бухгалтарам на фанернай фабрыцы. З 1942 карэктар-перакладчык у час. «Новы шлях» (Рыга). Складаў картатэку бел.-латышскага слоўніка. Арыштаваны савецкімі ўладамі ў 1945; асуджаны і адпраўлены на «фільтрацыю» ў Хабараўскі край, потым у Ніжне-Амурскі канцлагер МУС. Вярнуўся ў Рыгу ў сак. 1947. Працаваў рабочым.

[7] Арганізатарам і кіраўніком Магілёўскай філіі «Маладняка» (у 1925 — 1928 гг.) быў **ГАРБАЦЭВІЧ Васіль Савіч** [7(19).4.1893 — 17.9.1985], педагог, адзін з пачынальнікаў бел. савецкай драматургіі. Скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут (1918), МВПІ (1933). Друкавацца пачаў у 1921. У 1924—29 выкладаў бел. мову ў Магілёўскім педагагічным тэхнікуме. Адным з яго вучняў быў і будучы драматург **Кастусь ГУБАРЭВІЧ** (1907—1987). Удзельнік 2-й сусветнай вайны, цяжка паранены. Членам Саюза пісьменнікаў стаў у 88 гадоў (!). Пахаваны ў роднай вёсцы Дукора Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.

[8] **ЛЕАНІДАЎ Васіль** [сапр.: Багамольцаў; 1912?, — 1937 ?, Мінск ?, НКВД], паэт. Вучыўся ў МВПІ. Друкавацца пачаў у 1932; яго вершы з'яўляліся на старонках час. «Полымя рэвалюцыі», «Беларусь калгасная», «Чырвоная Беларусь», газ. «Звязда», «Літаратура і мастацтва», у альманахах «Аднагодкі», «Заклік», «Ударнікі». Арыштаваны ў канцы 1937. Абставіны смерці невядомыя.